Газета выдаецца са жніўня 1917 года

7 снежня 1991 г.
СУБОТА
№ 235 (21763)
Цана 20 кап.

# ЗВЯЗДА

## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

### КУДЫ СПЛЫВАЕ ЗОЛАТА?

**За мінулы год на польскім «чорным рынку», як паведамляе польскі друк, было прададзена ад 70 да 100 тон савецкага золата. У асноўным яно прапаноўваецца ў выглядзе гатовых вырабаў: ланцужкоў, пярсцёнкаў і бранзалетаў. Улічваючы наша блізкае суседства з Польшчай, можна прыйсці да высновы, што значная частка гэтага золата выкачваецца менавіта з Беларусі. А ўзамен што!**

### ЗАВЯЛІСЯ ДОЛАРЫ

**ПІНСКІ РАЁН. (С. Шапіра). Першыя 300 «зялёненькіх» паступілі ў касу калгаса «Перамога». Выручаны яны за прададзеныя шкуркі норак. На калгаснай звераферме зараз утрымліваецца больш за тысячу звяркоў чорнай, карычневай і нават серабрыста-блакітнай масці.**

Пасля завяршэння будаўніцтва новых памяшканняў пагалоўе норак павялічыцца да 10 тысяч. Вырашана за валюту прадаваць не толькі самі шкуркі, але і гатовыя футравыя вырабы, пашытыя ва ўласнай майстэрні.

### І Ў ОРШЫ ЁСЦЬ КАМП'ЮТЭРЫ

**ОРША. (А. Дук). Па 15, а то і 45 дзён прыходзілася чакаць адказу з Мінска і Масквы кліентам касы папярэдняга продажу чыгуначных білетаў, каб даведацца аб наяўнасці свабодных месц на поезд. Зараз, калі касу абсталявалі новай тэхнікай, камп'ютэр за некалькі хвілін дае патрэбную інфармацыю. Пры наяўнасці месц пасажыр адразу ж мае магчымасць набыць білет.**

### РАЗБЛЫТАЦЬ КЛУБОК ПРАБЛЕМ...

*А ВОСЬ ШТО ДУМАЮЦЬ «ЛЮДЗІ З ВУЛІЦЫ»:*

**Сямён БАДРОЎ, рабочы завода медыцынскіх прэпаратаў:** Гэта вельмі добрая ідэя — сустрэча кіраўнікоў трох братніх (не палічыце за гучныя словы) рэспублік, прытым найбольш эканамічна развітых. Выбірацца з багны сённяшняга бязладдзя трэба, і зрабіць гэта будзе лягчэй, калі станем дапамагаць адзін аднаму. Адкладваць на заўтра гэта нельга, камяк праблем нарастае з кожным днём.

**Мікалай ШАПАВАЛАЎ, інвалід Вялікай Айчыннай вайны:** Вы, маладыя, магчыма і не ведаеце, а я добра памятаю, што ў даваенныя гады праходзілі ўсеславянскія з'езды. Праўда, у той час ніякіх эканамічных пытанняў на іх не вырашалі, а праводзіліся яны хутчэй з нейкімі ідэалагічнымі мэтамі. З'езды праводзіць сёння не час, а вось сустрэчы, прычым рэгулярныя, кіраўнікоў трох славянскіх рэспублік, ці дзяржаў, як цяпер кажуць, патрэбныя.

**Уладзімір ЛЕАНОВІЧ, студэнт Беларускага дзяржаўнага інстытута народнай гаспадаркі:** А што мне той Ельцын, прыязджае — хай едзе, я не супраць, хоць на сваёй скуры вынікі гэтага візіту я, відаць, не адчую. Яны сустракаюцца кожны дзень, а мы ўсё спаўзаем...

### ФАКТ-ПРЫГАЖОСЦЬ

Ужо не першы год на возеры Замкавае, якое абрамляе замак Радзівілаў, жывуць пяць беласнежных лебедзяў-шыпуноў. Жывуць без асаблівых цяжкасцей і прыгод да першых маразоў. Як толькі возера замярзае, гордыя птахі без прынукі, самаходам, шыбуюць у мясцовую... кацельню. Хоць без вялікай раскошы, але ў цяпле і пры доглядзе.

### «ГАРЭЛАЧНЫ БУМ»

**ШЧУЧЫН. (В. Юрэвіч). У свой час паэт Міхась Васілёк сказаў: «Ой, гарэліца мая, што ты вырабляеш, ты над намі, мужычкамі, літасці не маеш...»**

Што датычыцца Шчучына — то не толькі над мужычкамі. Па сутнасці, амаль цэлы тыдзень працягваўся ў горадзе сапраўдны «гарэлачны бум». Чэргі ў магазіны займаліся як толькі пачынала віднець, і гандаль працягваўся аж да поўначы. «Пашанцавала» з работай міліцыі: сітуацыя вакол «кропак» вымушала чакаць лепшага. Што да кліентаў, то са злосці яны «паміналі» ўсіх: і ўлады, і канкрэтных асоб, і мясцовы райспажывсаюз, маўляў куды ўсе глядзяць? І сапраўды, куды? Тым больш — напярэдадні Каляд і Новага года.

### З АРГЕНЦІНЫ ПА НІТЦЫ, БАРАНАВІЧАМ — КАШУЛЯ

**Жыхарам Баранавічаў вельмі пашанцавала. У іх знайшоўся багаты замежны сваяк.**

Мільянер з Аргенціны Эктар Світуновіч мае намер адкрыць на радзіме сваіх продкаў, у Баранавічах, уласнае прадпрыемства, якое будзе шыць адзенне. Праўда, запрацуе фірма Світуновіча, відаць, не хутка. А таму на першым часе прадукцыя будзе вырабляцца ў Буэнас-Айрэсе і прадавацца ў Баранавічах. І, што самае прыемнае, за рублі. Вось толькі якія будуць цэны — пакуль невядома.

### ШКОЛА Ў КВАТЭРЫ

**ЖЛОБІН. (М. Шуканаў). З вясны гэтага года ў Жлобіне дзейнічае нядзельная дзіцячая школа пры мясцовай абшчыне хрысціян-каталікаў. Ініцыятарам яе стварэння з'яўляецца ксёндз Ян, які не так даўно прыехаў сюды на сталую працу.**

Дзеці, якіх налічваецца каля 30 чалавек, пакуль займаюцца ў змешанай узроставай групе. Нягледзячы на тое, што заняткі з-за адсутнасці ў Жлобіне дзеючага касцёла вядуцца на прыватнай кватэры, яны праходзяць цікава і захапляльна. У роўнай ступені надаецца ўвага тром мовам: беларускай, польскай і рускай.

У каталіцкай абшчыне Жлобіна не толькі выхоўваюць дзяцей духоўна, але і ўмацоўваюць іх здароўе. Так, дзякуючы намаганням ксяндза Яна, мінулым летам 26 дзяцей амаль цэлы месяц адпачывалі ў Польшчы. Паездку фінансаваў польскі касцёл. Дарэчы, у гэтую групу былі ўключаны дзеці не толькі з каталіцкіх, але і з праваслаўных сем'яў. Плануецца новая паездка дзяцей у Польшчу наступным летам.

### ВЫВУЧАЎ ЖА СТАТУТ: НЕ ПАКІДАЙ ПОСТ!

**Некалькі дзён назад мы паведамілі, што ваеннаслужачы адной з часцей А. Баброў самавольна пакінуў пост і, пагражаючы зброяй, на шашы каля вёскі Луцэвічы Кобрынскага раёна захапіў машыну, спрабуючы ўцячы.**

**Апавясцілі мясцовае насельніцтва, наладзілі пошук дызерціра. Разгульваць на волі таму давялося нядоўга: заціснуты з усіх бакоў у лесе каля вёскі Вулька-Градзішчанская Пінскага раёна, Баброў здаўся ўладам. Зброя пры гэтым не прымянялася.**

### ВА ЎРАДЗЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Прыняўшы прапанову Гродзенскага аблвыканкома, Савет Міністраў Беларусі пастанавіў стварыць на тэрыторыі вобласці міжнародны кансорцыум «Нёман». Аблвыканкому прадастаўлена права ажыццяўляць рэгістрацыю ствараемых у складзе кансорцыума структур з прыцягненнем замежных капіталаўкладанняў, а таксама даручана забяспечыць адвод зямельных участкаў для арганізацыі свабоднай эканамічнай зоны, размяшчэння і будаўніцтва аб'ектаў.

Урад рэспублікі звярнуўся з просьбай у Вярхоўны Савет разгледзець пытанне аб стварэнні ў складзе кансорцыума «Нёман» свабоднай эканамічнай зоны, вызначэнні яе прававога статуса і вызваленні ад падаткаабкладання ў адпаведнасці з заканадаўствам рэспублікі.

***

Выконваючы Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб увядзенні ў дзеянне Закона «Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь», урад сваім распараджэннем даручыў Міністэрству ўнутраных спраў распрацаваць да 1 лютага 1992 года і ўнесці ў Савет Міністраў праект Палажэння аб пашпарце грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, парадку і ўмовах яго выдачы.

Міністэрствы замежных спраў і юстыцыі па 1 сакавіка 1992 года павінны падрыхтаваць праект Закона «Аб прававым статусе замежных грамадзян і асоб без грамадзянства на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь».

**Аляксей ЗАЙКОЎСКІ.**

# ЕЛЬЦЫН СПЯШАЕЦЦА Ў МІНСК

## САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ, БАРЫС МІКАЛАЕВІЧ!

### Напярэдадні

Сказаць, што ягоны візіт у Мінск чакаўся з вялікім нецярпеннем, — значыць, не сказаць нічога. Ельцын ёсць Ельцын... І асабліва — цяпер, калі практычна поўнасцю рухнула некіруемая імперыя пад назвай Савецкі Саюз, а кожная з занава ўтвораных суверэнных рэспублік шукае сябе ў гэтым няпростым свеце і супярэчлівым жыцці, імкнучыся, вядома ж, найперш не толькі заявіць аб сабе на поўны голас, а і падумаць аб сваім народзе. Народзе, прыніжаным і зняважаным неўладкаванасцю і непарадкамі літаральна ва ўсім, на кожным кроку... Урэшце, і самі рэспублікі — на краі бездані... І ў гэтых умовах ад прэзідэнта Барыса Ельцына ў многім залежыць не толькі лёс Расіі, а і суседніх з ёй дзяржаў.

Пра тое, што Барыс Мікалаевіч наведаецца ў Рэспубліку Беларусь, я асабіста даведаўся па неафіцыйных каналах яшчэ тыдні два назад. Афіцыйна ж гэта паведамленне прагучала ў мінулы чацвер, калі ў Маскве адбылася сустрэча двух прэзідэнтаў — Расіі Б. Ельцына і практычна неіснуючага ўжо СССР М. Гарбачова. Як стала вядома, на працягу гадзіны яны абмяркоўвалі праблемы, узніклыя ў сувязі з падрыхтоўкай да падпісання новага Саюзнага дагавора. Размова паміж прэзідэнтамі, мяркуючы па ўсім, мела не толькі шырокі, а і востры характар. У тэлевізійным інтэрв'ю пасля сустрэчы Міхаіл Сяргеевіч сказаў літаральна наступнае: з Ельцыным мы абгаварылі і ягоную паездку ў Беларусь... Што гэта — спроба чарговай рэкамендацыі наконт таго, як сябе весці, дадзеная старэйшым па чыну Прэзідэнтам малодшаму? Не думаю. Па-першае, не той час; ды і, па-другое, не той чалавек Барыс Мікалаевіч, які можа дазволіць сабе слухаць чыесьці парады, а тым больш —выконваць нейчую волю... А можа так і было?! Можа, і Ельцын пачаў мяняцца?! Жыццё ж на месцы не стаіць...

Так, цікавасць да паездкі Прэзідэнта Расіі ў суседнюю суверэнную Беларусь М. Гарбачоў мог праявіць найперш у сувязі з тым, што, паводле зноў жа неафіцыйных звестак, у ходзе візіту Ельцына чакаецца прыбыццё да нас і Прэзідэнта Украіны Л. Краўчука. Больш таго, існуе меркаванне, што кіраўнікі трох славянскіх рэспублік маюць намер падпісаць шэраг сумесных дакументаў... А гэта ўжо не проста цікава: тут, у Мінску, у многім можа прадвырашыцца лёс як Расіі, Украіны і Беларусі, так і будучыня былога СССР.

Аднак усё гэта, так сказаць, прагнозы і меркаванні. Чакаць вынікаў засталося нядоўга. Дай Бог, каб былі яны плённымі, узаемавыгаднымі і карыснымі— усім нам, кожнаму з трох Вялікіх народаў.

Свае пазіцыі адносна будучыні Расіі і краіны ў цэлым Барыс Мікалаевіч Ельцын апошнім часам выказваў не адзін раз. У заяве аб прызнанні Расіяй незалежнасці Украіны, зробленай днямі, ён, у прыватнасці, падкрэсліў: «Усебаковае супрацоўніцтва нашых дзяржаў, іх узаемазалежнасць, станоўчы вопыт нашых узаемаадносін у мінулым патрабуе асабліва беражлівых да сябе адносін. Узаемавыгаднае і збалансаванае супрацоўніцтва паміж Расіяй і Украінай можа і павінна стаць прыкладам двухбаковых адносін паміж рэспублікамі старога Саюза. Адкрываюцца новыя магчымасці для цеснага ўзаемадзеяння з іншымі рэспублікамі, фарміравання сапраўды раўнапраўнай садружнасці суверэнных дзяржаў». Вельмі спадзяюся, што і ў Мінску адносна нашай дзяржавы, наконт будучых адносін Расіі і Беларусі Барыс Мікалаевіч скажа такія ж адназначныя і цёплыя словы.



З праграмы знаходжання Б. Ельцына ў Мінску вядома, што ў беларускай сталіцы адбудзецца абмен ратыфікацыйнымі граматамі і падпісанне двухбаковага дагавора паміж Расіяй і Беларуссю на 1992 год. Акрамя гэтага, ён выступіць у парламенце перад народнымі дэпутатамі Рэспублікі Беларусь.

Расія і Беларусь... Не палічы, чытач, за гучныя словы, але скажу: няма больш у свеце двух народаў, узаемаадносіны паміж якімі не былі б такімі цеснымі, шчырымі і залежнымі адзін ад аднаго. Лёсы рэспублік, а цяпер — суверэнных дзяржаў — такія падобныя! І, разам з тым, — своеасаблівыя і непаўторныя. Цяпер жа, дабіўшыся, у рэшце рэшт, свабоды і незалежнасці, нам тым больш нельга аднаму без другога. Мне здаецца, кіраўнікі Расіі і Беларусі гэта выдатна разумеюць!

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**
**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**

# «...МЫ ЎСЕ РАЗАМ ЛЯЦІМ ДА ЗОР»

**Сёлетні год пазначаны імем Максіма Багдановіча не толькі для Беларусі. Святочныя вечарыны, юбілейныя імпрэзы адбыліся напярэдадні 100-годдзя вялікага сына нашай зямлі ў многіх гарадах за мяжой. Гэтай даце быў прысвечаны вечар у штаб-кватэры ЮНЕСКА ў Парыжы. А месяц назад імя Максіма Багдановіча сабрала прыхільнікаў беларускай культуры ў Нью-Йорку, у ААН. На вечарыне выступіў міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка. Ніжэй змяшчаем яго выступленне з неістотнымі скарачэннямі.**

Мы, як і ўсе народы свету, маем сваіх выдатных сыноў. Фізічна адыходзячы ад нас у вечнасць, яны духоўна застаюцца з намі, сваім існаваннем, прыкладам жыцця, геніяльным прадбачаннем яднаюць жывую повязь пакаленняў, вечнасць і неўміручасць нацыянальнага духу, самога народа. І ў гэтым — існасць жыцця. Яны — духоўныя правадыры і настаўнікі нацыі, яе гонар і сумленне, шчасце і радасць, надзея і боль. Колькі будзе існаваць жыццё на зямлі, столькі сэрца кожнага беларуса будзе саграваць імя Максіма Багдановіча.

27 лістапада 1891 года на небасхіле нашай літаратуры назаўсёды ўзышла і ніколі не згасне зорка першай велічыні, зорка натхнення і кахання, спадзявання і веры ў лепшую долю аднаго з самых гаротных еўрапейскіх народаў. І ў гэтым быў нейкі цуд, нейкая нязгаднасць і таямнічасць. Як, адкуль і чаму маленькі хлапчук, які страціў у пяцігадовым узросце маці, быў адараваны на многія гады ад Маці-Радзімы, ператвараецца ў Паэта-Волата, Паэта-Прарока. Паэта, як кажуць, божай міласці і ласкі.

А ці не сімвалічна, што ў год нараджэння Максіма ў далёкім Кракаве з'явілася на свет «Дудка беларуская», якая быццам загучала над калыскай геніяльнага дзіцяці, гаворачы Максімку: «У добры шлях», сцвярджаючы з'яўленне беларускай літаратуры новага часу.

І ён смела і хораша пайшоў па сваім кароткім 25-гадовым жыццёвым шляху, ні на каго непадобны, геніяльны ў сваёй прастаце, натуральнасці, свежасці і чысціні. Ён з'явіўся таму, што так было трэба: прыйшоў яго час і час яго народа, які доўга і маўкліва пакутаваў, марыў пра нацыянальнае абуджэнне.

Малады паэт-рамантык не мог змірыцца з «кавалкамі грубага жыцця», якія ён, сілай свайго таленту і натхнення, пакляўся ператварыць у «жэмчуг пачуцця».

Давайце ўспомнім і запомнім, што ў асобе Максіма Багдановіча мы бачым аднаго з першых беларускіх інтэлігентаў, галоўнымі рысамі якога былі самаахвярнасць, невычарпальная любоў да простага люду, надзвычайная эрудыцыя. Акрамя чатырох славянскіх моў ён валодаў яшчэ пяццю еўрапейскімі, у тым ліку бліскуча — французскай мовай. Верлен і Бадлер, Рэмбо і Сюлі Прудом, Гарацый і Шылер, Пушкін і Шаўчэнка заўсёды побач з ім, у эпіграфах яго вершаў, у сэрцы, у падсвядомасці. Адкрытасць свету, культуры розных народаў зямлі—квінтэсенцыя яго таленту.

Давайце ўспомнім і запомнім, што гэта быў бліскучы перакладчык.

Давайце ўспомнім і запомнім, што гэта быў выдатны музыказнаўца, які ад маці атрымаў незвычайную музычнасць і вельмі тонка разумеў творчасць многіх вядомых кампазітараў (напрыклад, Мусаргскага).

Давайце ўспомнім і запомнім, што гэта быў і паэт-наватар, які імкнуўся сцвердзіць вобразна-выяўленчыя магчымасці роднай мовы і менавіта ён увёў у нацыянальную літаратуру тэрцыны, трыялет, рондa, санет і скерца.

Давайце ўспомнім і запомнім, што Максім Багдановіч быў сярод тых, хто больш жыцця любіў і шанаваў нашу мову. Яшчэ ў дзяцінстве яго вельмі ўразілі словы Ф. Багушэвіча: «Мова — гэта адзенне душы». І бачыцца мне, як стаіць малады Максім, ззяюць яго вочы, квітнее сухотнай чырванню шчака і з вуснаў зрываюцца пранікнёныя словы Каруся Каганца, якія ён горача кідае ў залу, поўную вучнямі Дзямідаўскага ліцэя ў Яраслаўлі.

«Але, не! Наш народ не згіне, і прыйдзе тая часіна, што прачнецца наш русняк і скажа суседзям так: — Служылі мы вам — заплаціце вы нам! Нам грошай не трэба, бо свайго хопіць хлеба. А скажыце нам толькі: «Беларусы Вы».

Давайце ўспомнім і захаваем назаўсёды ў сэрцы тыя светлыя жаночыя імёны, якія натхнялі паэта, яго «Мадоннаў», без якіх творчасць страціла б усхваляванасць пачуццяў. Вечная асалода недасягальнасці, веліч няздзейсненасці, зачараванне «высокаю красою» — магутныя рухавікі яго творчасці. Гэта яны — Ганна Какуева, незнаёмая нам Клава, Эмілія Шабуня (родныя сёстры Івана і Антона Луцкевічаў), Людвіка Сівіцкая (Войцік), Валянціна Кацарэўская будуць навечна з паэтам і з намі. Легендарныя і далёкія імёны, але дзіўна блізкія нам. У гэтай зале сёння наш спявак Б. Андрусішын (Данчык): яго маці і бабуля — самыя блізкія сваякі Эміліі Луцкевіч. Так, сярод нас ёсць дачка Эміліі Яніна Каханоўская, якую не раз у дзяцінстве ўздымаў угору Максім. Яна і сёння памятае цеплыню яго рук. Ці, напрыклад, Людвіка Сівіцкая (беларуская паэтка Зоська Верас), якая памерла ў кастрычніку г.г., не дажыўшы да свайго 100-годдзя менш года. Калі мы ў Мінску ратавалі апошні дом на Рабкораўскім завулку, які на «свае вочы» бачыў М. Багдановіча, то менавіта яна дакладна апісала нашым мастакам тое памяшканне, дзе сустракалася з Максімам (дзе што стаяла, які быў колер сцен, вокнаў). Уяўляючы ўсё гэта, разумееш, што з пункту гледжання вечнасці 100-годдзе — гэта імгненне.

Давайце добрым, ласкавым словам успомнім сваякоў і сяброў паэта, яго настаўнікаў. Успомнім бацьку Адама Ягоравіча, маці Максіма, родных цётак паэта Магдаліну і Марыю, Аляксандру Паўлаўну Волжыну, другую жонку бацькі, хросную маці Вольгу Епіфанаўну Семаву (менавіта яна выпісала паэту «Нашу ніву»), настаўніка гісторыі беларуса Кабанава.

Успомнім і памянём добрым словам неўміручых Янку Купалу, Якуба Коласа, якія давалі дарогу ў друк першым яго творам. Успомнім таксама тых, каго ведаў М. Багдановіч і чые ўгодкі мы таксама адзначаем сёлета: 130-годдзе акадэміка Карскага, 100-годдзе Аркадзя Смоліча (які першым сустрэў паэта на вакзале ў Мінску), 110-годдзе Уладзіміра Ігнатоўскага і Івана Луцкевіча. Юбілей М. Багдановіча супаў і з 500-годдзем пачатку кірылічнага кнігадрукавання.

Так што нам ёсць каго ўспомніць, ёсць кім і чым ганарыцца. 27 лістапада 1891 года ўзышла наша зорка, 12 мая 1917 года паэта не стала. У апошні шлях яго не праводзіў ніхто з блізкіх яму людзей. Так часта бывае з вялікімі паэтамі. На стале каля ложка, апошняга ложка паэта, асірацела ляжалі «Вянок» з закладкай на вершы «Зорка Венера», паштоўка, якую так і не паслаў бацьку, стаяла талерачка з першымі духмянымі суніцамі. Твар быў спакойны і прыгожы, як быццам паэт прылёг адпачыць. Праз чатыры дні прыехаў бацька — Адам Ягоравіч — які, знаходзячыся ў Сімферопалі, атрымаў тэлеграму з Яраслаўля. Стоячы каля магілы сына, убачыў просты надпіс чарнільным алоўкам: «Максим Адамович Богданович — студент». Убачыў і ўспомніў простую беларускую прымаўку, бязлітасную народную мудрасць: «Усё заканчваецца чарвяком». Успомніў і зразумеў нарэшце адзін з вершаў сына:

**І чаму паспяшаемся так**
**Напружаючы ўсе свае сілы,**
**Калі ціха паўзушчы чарвяк**
**Усё ж дагнаў нас ля самай магілы.**

Жан-Поль Сартр аднойчы трапна сказаў: «Слава — сонца нябожчыкаў». Слава ўжо не грэе Максіма, але яна сёння патрэбна народу. І дзеля таго, каб людзі Зямлі Беларускай адчулі сябе нацыяй, узыходзячым народам, нам патрэбен Пантэон. Пантэон для тых, хто з'яўляецца гонарам і сумленнем нацыі. Беларускую дзяржаву трэба пачынаць будаваць з розных бакоў, не забываючыся пра продкаў, пра карані. І вельмі дзіўна, што сёння, калі можна зрабіць літаральна ўсё, сярод нашай інтэлігенцыі знаходзяцца людзі, якія, спасылаючыся на хрысціянскую традыцыю, выступаюць супраць вяртання Максіма на Радзіму і перазахавання яго ў Мінску. Як быццам прыклад з перазахаваннем Канстанцыі Буйло і Івана Луцкевіча не гаворыць нам, што так можна і трэба зрабіць. Паэт, які ўсё жыццё імкнуўся на Бацькаўшчыну, пакуль што ляжыць «у зямлі, свайму сэрцу не мілай».

Давайце зробім так, каб, будуючы Дзяржаву, мы не забыліся пра Пантэон, пра тое, што, шануючы продкаў, мы будзем дбаць у рэшце рэшт і пра сябе, пра свой народ.

**Нашто ж на зямлі сваркі і звадкі,**
**Боль і горач,**
**Калі мы ўсе разам ляцім**
**Да зор?**

Так, стоячы тут і шануючы геніяльнага паэта, мы, самі таго не разумеючы, ляцім да Зор, ляцім да яго!

Жыве і векі вечныя будзе жыць Беларусь!

## Станіслаў Шушкевіч не адчувае імперскіх замахаў Расіі

**Напярэдадні візіта ў Беларусь Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Ельцына карэспандэнт БелаПАН Алесь Ліпай задаў некалькі пытанняў Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі С. ШУШКЕВІЧУ.**

**— Дэпутаты ад апазіцыі іншы раз гавораць аб імперскіх замахах Расіі, яго цяперашняга кіраўніцтва. А як на Ваш погляд, ці праяўляюцца ў чым-небудзь імперскія памкненні гэтай дзяржавы?**

— Дэпутаты ад апазіцыі апошнім часам надта смела разважаюць аб тым, аб чым менш за ўсё ведаюць. Трэба не гаварыць, а займацца рэальнай палітыкай. Мы вядзём сур'ёзныя перагаворы, і я ніякіх імперскіх замахаў не адчуваю.

**У адным з інтэрв'ю радыёстанцыі «Свабода» вы назвалі магчымым аб'яднанне некалькіх рэспублік у новы Саюз без удзелу ў гэтым працэсе цяперашняга саюзнага цэнтра. Ці будзе абмяркоўвацца гэтае пытанне ў час візіту Ельцына?**

— Абмяркоўвацца могуць многія пытанні, але, паводле папярэдняй дамоўленасці, весці размову ў такім кантэксце мы не планавалі. Магу дадаць, што ў цэнтры ўвагі ў час перагавораў будзе пытанне паскарэння эканамічных рэформ у Расіі і ўзгадненне ў сувязі з гэтым пазіцый.

**— Паводле сведчанняў агенцтва «БелаПАН», пару дзён назад вам званіў Прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў і выказваў зацікаўленасць у сваім удзеле ў «беларускай» сустрэчы...**

— Я не хацеў бы даводзіць да ведама ўсіх змест сваіх гутарак з Гарбачовым. Таму што гэта — этап абмеркавання, а прамежкавыя вынікі не маюць значэння.

**Існуе думка, што толькі рэферэндум аб пацвярджэнні курса Беларусі на незалежнасць паскорыць працэс прызнання незалежнасці нашай рэспублікі міжнароднай супольнасцю.**

— Гэта ўжо не проста думка, а адна з прапаноў, вынесеных на нядаўняе пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета, якая зараз аналізуецца. Дарэчы, сацыялагічныя апытанні паказваюць, што грамадская думка, у пачатку года выказаная на карысць прапанаванага тады на рэферэндуме Саюза, мяняецца...

## Бывай, камсамол?

Не ў самай вялікай і раскошнай зале рэспублікі, як было яшчэ зусім нядаўна, а на загараднай базе міжнароднага маладзёжнага цэнтра «Юнацтва» 6 снежня сабраліся на свой апошні, 30-ы з'езд пасланцы камсамола Беларусі. Ясна адно: Ленінскага Камуністычнага Саюза моладзі рэспублікі больш не будзе. Хто ж стане праваправаемнікам адзінай юнацкай арганізацыі?

Менавіта гэта тэма стала пасля даклада першага сакратара ЦК ЛКСМБ Аляксея Крыўдзенкі прадметам дыскусіі.

Чым завершыцца гэта дыскусія і што з'езд вырашыць, даведаемся, калі дажывём да панядзелка.

На адкрыцці з'езда выступіў Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч.

(БЕЛТА).

## ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ●

РАДЫЁ ПЕРАХВАТ

### РАДЫЁ «СВАБОДА»

● Прэзідэнт Грузіі Гамсахурдыя разглядае аб'яўленне незалежнасці Украінай як імпульс для незалежнасці Грузіі. У сваім віншаванні Л. Краўчуку Гамсахурдыя выказвае падзяку за непадпісанне Украінай Саюзнага дагавора, што, на яго думку, з'яўляецца добрай навінай для іншых рэспублік, якія імкнуцца да незалежнасці.

● **У інтэрв'ю германскаму агенцтву ДПА В. Ландсбергіс заявіў, што небяспека па-ранейшаму пагражае Літве. У рэспубліцы існуюць падпольныя сілы фашысцкага толку, якія мяркуюць павярнуць кола гісторыі, падкрэсліў літоўскі лідэр.**

● Адзін з экспертаў Міністэрства эканомікі і планавання СССР заявіў, што рэспублікі былога СССР падтрымалі праект еўрапейскай энергетычнай хартыі. Ён павінен быць падпісаны ў Гаазе 16 снежня г. г. Масква падпіша хартыю ад імя Савецкага Саюза.

● **Узмацненне баёў у Харватыі, магчыма, прывядзе да новага буйнога наступлення часцей федэральнай арміі. Бялградскае радыё паведаміла, што ва Усходняй Харватыі ідуць асабліва жорсткія баі.**

● Сітуацыя ў Закаўказзі ўжо ў многім нагадвае югаслаўскі варыянт. Асабліва ў Нагорным Карабаху. Можа таму Арменія ўсё часцей выказваецца за ўвод войск ААН у гэту зону. Але цікава, што і міністр замежных спраў Эстоніі прапануе ўвесці «блакітныя каскі» ў Прыбалтыку, дзе зараз дыслакуецца Паўночна-Заходняя група войск былога СССР.

### «ГОЛАС АМЕРЫКІ»

● **У канферэнцыі, што праходзіць зараз у Маскве паміж дзелавымі людзьмі ЗША і СССР, амерыканцы бачаць залог таго, што рэспублікі ў большай ступені пачнуць супрацоўнічаць з прыватным сектарам, чым з дзяржаўнымі структурамі ЗША. Па меркаванню сустаршыні канферэнцыі амерыканца Мюлера яе галоўная мэта—пазнаёміць прадпрымальнікаў ЗША з умовамі савецкага рынку, падказаць, як лепш ствараць сумесныя прадпрыемствы, наладзіць продаж тавараў з Амерыкі.**

● Абвяшчэнне незалежнасці Украінай, дзе жыве 52-мільённы народ і размешчана магутная індустрыя, ператварыла гэту былую савецкую рэспубліку з малодшага славянскага брата ў новую, упэўненую ў сабе дзяржаву, якая цяпер патрабуе свайго адпаведнага месца ў Еўропе і свеце. Украіна без Расіі здолее хутчэй збавіцца ад спадчыны камунізму і дасягнуць дэмакратыі і працвітання, чым калі б гэтыя рэспублікі былі ў альянсе. Нават хутчэй, чым гэта можа зрабіць Расія.

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ●

## ДА ВІЗІТУ Ў РЭСПУБЛІКУ БЕЛАРУСЬ

У нядзелю, 8 снежня, у Рэспубліку Беларусь прыбывае з афіцыяльным візітам генеральны дырэктар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКА), вядомы іспанскі вучоны і грамадскі дзеяч Федэрыка Майёр Сарагоса.

Ф. Майёр нарадзіўся 27 студзеня 1934 года ў Барселоне. У 1956 годзе ён з адзнакай закончыў фармацэўтычны факультэт Мадрыдскага універсітэта, праз два гады паспяхова абараніў дысертацыю. У 1963—1973 гадах працаваў загадчыкам кафедры біяхіміі Гранадскага універсітэта, адначасова ў 1968—1972 гадах—рэктарам гэтага універсітэта. У 1974—1978 гадах ён— старшыня Вышэйшага савета навуковых даследаванняў Іспаніі. У 1978—1981 гадах —намеснік генеральнага дырэктара ЮНЕСКА. У 1981—1982 гадах—міністр асветы і навукі Іспаніі, у далейшым—дырэктар Інстытута малекулярнай біяхіміі Мадрыдскага універсітэта, дырэктар Інстытута навукі аб чалавеку ў Мадрыдзе. У 1987 годзе выбраны генеральным дырэктарам ЮНЕСКА.

Аўтар звыш пяцідзесяці навуковых прац, уладальнік ганаровых званняў многіх універсітэтаў, член Каралеўскай акадэміі медыцынскіх навук.

Ф. Майёр шырока вядомы ў свеце як грамадскі дзеяч. Ён з'яўляецца членам Рымскага клуба, членам савета дырэктараў Міжнароднага фонду «За выжыванне і развіццё чалавецтва», удзельнік «Ісык-кульскага форуму».

Жанаты, мае траіх дзяцей.

(БЕЛТА).

ЧАС ПАДПІСАННЯ Ў ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ Ў 21.05.





Памяць пра Максіма Багдановіча беларускія мастакі ўшаноўваюць вялікай выставай, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння паэта. Ва ўсіх залах Рэспубліканскай мастацкай галерэі ў Палацы мастацтваў размясціліся больш за тысячу твораў жывапісцаў, графікаў, скульптараў, прыкладнікоў.

Творы прысвечаны не толькі жыццю і творчасці Максіма Багдановіча. Тут — адбітак духоўнага адраджэння Беларусі, асэнсаванне беларускай гісторыі. Свята, якое стала агульнанацыянальным, нясе з сабой не толькі ўрачыстасць, але і шмат пытанняў аб нашай культурнай спадчыне. Гэта — падстава зноў нагадаць аб праблемах, звязаных з прафесійным і народным мастацтвам, з вяртаннем гістарычнай спадчыны. Усё гэта стала тэмай многіх карцін, скульптурных кампазіцый, габеленаў.

Л. САЛОДКІНА.

НА ЗДЫМКАХ: творы з выстаўкі. У. Барабанцаў «На радзіме Багдановіча»; А. Папоў «Касцёл у Граўжышках».

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

# НАШ МАКСІМ

**Гэта імя яшчэ на пачатку стагоддзя стала сімвалам маладой Беларусі — вольнай, незалежнай, са сваім рамантычным светам народных спеваў і старажытных паданняў, з багатай гісторыяй, самабытнай культурай, загартаваным стагоддзямі нацыянальным характарам.**

**Гэта імя — увасабленне трагедыі народа і яго гонару, драматызму і геніяльнасці. Народ паднімаўся з каленяў — і малады моцны голас паэта дапамагаў яму ў гэтым. На самай высокай ноце, недаспяванай змоўкла песня Паэта,— нібы прадвызначаючы лёс нашага нацыянальнага Адраджэння, якое таксама абарвалася на ўзлёце, ледзь пачаўшыся.**

**Беларусь зноў паднімаецца з каленяў, займае месца ў сям'і еўрапейскіх народаў, вяртае сабе ўласную годнасць, адмаўляючыся ад горкай ласкі магутных апекуноў. І цяпер ёй як ніколі раней зноў патрэбна імя і слова яго, Максіма Багдановіча.**



* * *

**Ён навучыў, здаецца, гаварыць**
**Па-беларуску нават кіпарысы,**
**Барвінак на магільніку гарыстым**
**Ён навучыў, здаецца, гаварыць.**

**Паўднёва сонца плавіцца ўгары,**
**Зямля гарачая, нібыта прысак...**
**Ён навучыў, здаецца, гаварыць**
**Па-беларуску нават кіпарысы.**

*Янка СІПАКОЎ.*

Эсэ

# Таямнічасць і дакор Багдановіча

**Калі думаеш пра яго, калі чытаеш яго творы, калі напружанай работай розуму хочаш зазірнуць за ягоны радок і спасцігнуць высокую таямніцу ягонай паэзіі,— адразу рэфрэнам узнікае напамін — «Ён пражыў толькі 25 гадоў».**

**А творчага жыцця — усяго дзесяць. І як аддана служыць Паэзіі, як цалкам пачуцці, пераменлівы стан душы пераліць у радок, калі ведаеш, што ў цябе сухоты? Што, можа, не так ужо і далёка мяжа?**

**І што б мы мелі, каб творчае жыццё доўжылася не дзесяць, а дваццаць, трыццаць, сорак, пяцьдзесят гадоў? Калі б ён творча працаваў пяцьдзесят — то яму было б усяго шэсцьдзесят пяць?**

Жыццё і праца таленту заўсёды дакор тым, каму час і лёс наканаваў жыць пасля. Не ведаю, хто пусціў у свет такое спалучэнне, як «малады паэт», у дачыненні да дарослага чалавека, а для мяне яно гучыць як знявага, гучыць недарэчна. Верш альбо ёсць, альбо яго няма. І аўтар — альбо паэт, альбо не. І мне, чытачу, не так важна, колькі гадоў творцу. Мяне цікавіць біяграфія генія, таленту, проста паэта. Але сёння часта ўзнікае пратэст, калі перад прозвішчам аўтара стаіць прыметнік «малады», хаця аўтару ўжо ідзе чацвёрты дзесятак. Уявіце гэты прыметнік побач з прозвішчамі М. Багдановіча ці М. Лермантава.

Пратэст гэты ўзнікае таму, што ім зроблена за кароткі тэрмін столькі, на колькі іншым тры доўгія жыцці не хопіць. Прачытана і ўсвядомлена беларускіх, рускіх, сусветна вядомых аўтараў у такіх памерах, што іншаму цяжка нават уявіць. Ягоныя думкі пра лёс беларускага народа, яго культуру і мову, месца ў сусветным супольніцтве такія глыбокія і грунтоўныя, што многія нашыя клопаты здаюцца дробязнымі і мітуслівымі.

Ёсць нейкая вялікая тайна ў вялікіх паэтаў, якую, на маю думку, крытыкам спасцігнуць не ўдаецца і наўрад ці ўдасца. Мо і не трэба алгебрай правяраць гармонію. Адзін кампазітар ловіць запамінальную мелодыю ўсё жыццё, перакрэмзае кілаграмы нотнай паперы, а мелодыя не ловіцца, выслізгвае, а другі так няўлоўна спалучае гукі, што яны аблятаюць шар зямны і пяюцца ўсюды. Так і з паэзіяй. Яны вельмі блізкія — гармонія гуку і гармонія слова.

У таго і здольнасці быццам бы ёсць, і да рыфмы не прычэпішся, а паэзіі няма. Прачытаеш, адзначыш здольнасць, спрыт—і забудзеш. Гэта вялікая таемнасць—сапраўдны верш. Апісаць словамі якую — немагчыма.

У Максімавых вершах паэзія прысутнічае амаль у кожным радку. І слава ягоная — яшчэ на ўзлёце, асабліва сусветная слава. Дай Божа ягонай паэзіі добрых перакладчыкаў.

Асобныя вершы Максіма так напісаны, што вучыць іх не трэба — яны міжволі застаюцца ў памяці. І калі трэба, самі з'яўляюцца, каб настрой перавесці з аднаго стану ў другі.

Вось радок з агульнавядомай сучаснай песні «...когда наступает отчаянье, я в синий троллейбус сажусь на ходу...» А ў мяне, калі ахоплівае стомленасць, узнікае нейкі неспакой, з'яўляецца патрэбнасць пайсці аднаму на вуліцу, у сквер, лепей у благое, мокрае надвор'е, альбо хадзіць па лесе ў «Ісланы» і чытаць напаўголасу вершы. Іх не многа, розных паэтаў, чые творы добра настройваюць душу. І адзін з іх — Багдановіч.

Часта згадваю пра яго, калі паўстае глабальная праблема — адраджэнне беларускай мовы, нацыянальнай культуры. Не хацелася б тут даводзіць таму чытачу, які не ведае і не хоча ведаць мову сваіх продкаў, спасылаючыся на нейкае і сённяшняе яе «ущемление». Тут гаворка з іншай нагоды. Але ж жыццё і творчасць паэта шле нам свой дакор і тут. Імкненне юнага Максіма спасцігнуць мову сваіх бацькоў — уражвае і захапляе. Вучыўся ў Расіі, але дакладна, дасканала вывучыў беларускую мову і пісаў вершы на ёй. Мог бы і на рускай. І пераклады, і ўласныя вершы сведчаць, што мастацкі ўзровень быў бы такім жа. Аўдыторыя ж чытачоў была б непараўнальна большай. І не ведаў, што Беларусь стане рэспублікай. Але — пісаў на мове бацькоў. Вось дакор нам усім. Хто і што нам замінае ведаць сваю мову— першы, асноўны, рад у падмурку нацыянальнай культуры? Абыякавасць? Раўнадушша?

Газета «Звязда» ўжо пісала нядаўна аб тым, што мы не паспелі зрабіць да юбілею. Паўтарацца не буду. Міжволі думаеш, а ці зробім калі хоць бы тое, што запланавана? Бо пасля юбілею, як звычайна, намаганні ў гэтым накірунку слабеюць. І на каго спасылацца, калі не ўмеем і не хочам?

Хто замінаў і шмат гадоў таму, і да юбілею паставіць у сталіцы помнік Францыску Скарыне? Абяцалі да юбілею. Прайшоў ён. І што? А колькі нашых дзеячаў сваім жыццём і працай заслужылі вялікага ўшанавання? І гэта трэба не ім, яны не прасілі ўзнагарод і розных адзнак. Яны працавалі дзеля народа, аддалі яму ўсё: і жыццё, і талент. І народ падтрымаў бы любую ініцыятыву чыноўнікаў у гэтым накірунку. Бо помніць мінулае, сваіх знакамітых продкаў — значыць, мацаваць свой інтэлект, духоўную сілу, душу. Але... зноў тыя ж раўнадушша і абыякавасць.

Можа, хто і не пагодзіцца са мной, але ўсё ж думаю, што асоба Максіма Багдановіча сярод усіх нашых славутых землякоў, суайчыннікаў больш за іншых прыцягвае да сябе творчую інтэлігенцыю, асабліва скульптараў, мастакоў. І нашых суайчыннікаў, і будучых нашчадкаў. І адказ тут быццам бы просты: малады, высокі, прыгожы, з глыбінным інтэлектам, з шырокімі ведамі. І кожнае наступнае пакаленне будзе адкрываць для сябе гэтыя якасці пасвойму.

Пішу, а перад вачыма партрэт, выкананы Нінэль Шчаснай. Ляжыць паэт, хваробаю агорнуты. Ён разумее свой стан. І толькі ў вачах не гасне, жыве маленькая надзея. І радок да карціны: «Быць- можа, я не скончу жыць». А да шыі цягнецца нешта чырвона-чорнае. Слабая рука ўжо не трымае сваю самую дарагую рэч — кніжку «Вянок».

Так, асоба Максіма прыцягальная і сёння, і ў будучым. Лёс даў яму прыгожых, разумных бацькоў. Маці, перадаўшы дзецям усю сваю пяшчотнасць, шчырасць, усё багацце сваёй душы, мала пабыла побач з імі. Яна не змагла перадаць толькі адно — трывалае здароўе, бо ў самой яго не было. А бацькавага моцнага здароўя, супраціўлення лёсу і абставінам Максіму не хапіла.

Выразныя фотаздымкі бацькоў хочацца разглядаць доўга і падрабязна: іх свабодныя постаці, не скаваныя парадамі фатографа, іх па-сапраўднаму прыгожыя твары, прамы, спакойны погляд удумлівых вачэй. Бацька пражыў 78 гадоў. Калі б пашчасціла Максіму і ён пражыў бы столькі ж, то быў бы нашым сучаснікам. І можна толькі ўявіць, што даў бы ён свайму народу. Але...

Яшчэ адзін роздум неадчэпна прысутнічае. калі ўваходзіш у свет Максіма — думка пра каханне. Ён — такі духоўна багаты, адукаваны, з глыбокім інтэлектам, вельмі прыгожы знешне — не мог жыць без кахання. Для такіх людзей яно, каханне, значыць вельмі многа. калі, бадай, не ўсё. Душа такіх — без кахання, без узаемнага кахання жыць не можа. І калі б (зноў гэтае — калі б) побач была любая, маладая прыгожая жанчына, яна б уратавала яго.

Ён быў кантактным, вясёлым юнаком, любіў гульні ў шумнай кампаніі сяброў, да яго многія цягнуліся, хацелі сябраваць з ім, але... не было той адзінай, якая б пайшла з ім на край свету... «Як зрабілася, што пакахаў цябе я...» — гэта Ані.

Гляджу на добры фотапартрэт Ані Какуевай. І зноў не стрымаць фантазіі. Вялікія, разумныя, задуменныя вочы на прывабным твары. Ну, чаму тыя вочы, тая глыбокая дзявочая душа не ўгледзеліся ў Максімавы вочы і, ягоную душу? І пара была б цудоўная, і магчыма, лёс паэта склаўся б больш шчасліва. Да таго ж, Максім так марыў пра сваё дзіця, падобнае на Аню ў маленстве. Зноў жа, але... дзявочае сэрца загаду розуму не прымае, і ўсялякую логіку адвяргае. А ён пісаў ёй і на рускай мове.

**Ах, как умеете Вы, Анна,**
**Не замечать, что я влюблен,**
**Но все же шлю я Вам не стон,**
**А возглас радостный: осанна!**

Яна была сястрой таварышаў па гімназіі, актыўна ўдзельнічала ў забавах моладзі, ведала замежныя мовы, скончыла кансерваторыю з залатым медалём і... выйшла замуж у 1914 годзе за аднаго з сяброў Максіма.

Гэта навіна балюча секанула па Максімавым сэрцы. Прачытайце ў апавяданні «Марына» пра ягоны стан у тыя хвіліны, калі ён даведаўся пра шлюб любай. Жахлівыя пакуты... Эх, Аня, Аня, Ганна Какуева...

Большасць ведаюць Багдановіча як паэта. Гэта натуральна. Але ён быў яшчэ тонкім крытыкам, таленавітым празаікам і публіцыстам. Нагадаю хоць бы артыкул, напісаны з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння М. Лермантава. Назва — «Адзінокі». Амаль пра сябе. Вось апошні сказ «...Многія з пачуццём жывой удзячнасці ўспомняць цяпер гэтага геніяльнага, але адзінокага, на самога сябе пакінутага, чалавека».

І апошняе, пра што нельга не гаварыць у сувязі з месцам пахавання. Няма, мабыць, ніводнага сапраўднага грамадзяніна нашай рэспублікі, які б, быўшы ў Ялце, не наведаў бы апошні прытулак паэта. Раней, калі ўсё было і ціха, і мірна — можна было б і не турбаваць яго спакой. Цяпер, калі варожасць і дзяльба межаў становіцца звычкай, калі ў канфрантацыі — розныя рэлігіі, калі невядома, чый будзе Крым — Расіі, Украіны ці, прабачце, Турцыі, нам трэба ўсё ўзважыць і мо вярнуць Паэта на Радзіму. Тут яму будзе спакойна і ўтульна.

На жаль, (а мо, на шчасце) юбілеі праходзяць. І хацелася б, каб хваля публікацый, інтарэсу да такой асобы, як Максім Багдановіч, не меншылася. Яго празрыстае, чыстае жыццё, ягоны талент, дадзены Богам і ўмацаваны сваёй воляй і жаданнем сказаць добрае людзям, абудзіць іх свядомасць,— патрэбны і нам, і нашым нашчадкам. Будзем помніць пра гэта і аддзячым Паэту за ўсё вялікае, што маем ад яго.

**Леў КАРАІЧАЎ.**

# «Я хацеў бы спаткацца з вамі...»

**Нас чакае яшчэ адна незвычайная сустрэча з Максімам Багдановічам. Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў рэспублікі Міхаіла Фінберга падрыхтаваў праграму, прысвечаную класіку беларускай паэзіі.**

Мэтай для стваральнікаў праграмы стаў сам Паэт — ягоны лёс, жыццёвыя і творчыя шуканні, роздумы, спадзяванні.

Праграма «Максім» (гэта ўмоўная, рабочая назва) амаль цалкам складзена па творах Багдановіча. Кампазітару Ігару Палівodзе ўдалося надаць арганічную музычную афарбоўку паэтычным радкам (язык не паварочваецца сказаць: «напісаць музыку»). Дакладней — адчуць, зланіць музыку Максімавай паэзіі і данесці яе да гледача, слухача.

— Як у нас нярэдка бывае: усім вядома, што Багдановіч — вялікі паэт, ну, і мноства падобных эпітэтаў могуць яшчэ дабавіць. Але што тычыцца яго вершаў — многія іх ведаюць з пятага на дзесятае... Не, для мяне гэта не кан'юктурная работа, калі хочаце—патрэба душы. Жаданне, каб пра Багдановіча не гаварылі «жалезабетоннымі» эпітэтамі, каб для кожнага ён быў проста паэтам, субяседнікам, дарадчыкам, — сказаў Ігар Палівода.

Новая праграма аркестра не абмяжоўваецца выключна музычнымі нумарамі, яна разлічана на вялікае драматургічнае дзеянне (рэжысёр Аляксей Ляляўскі, мастак Аляксандр Вахрамееў). Некаторыя жанр праграмы вызначалі як поп-оперу. Наконт тэрмінаў хай спрачаюцца музыказнаўцы, я ж толькі адзначу, што атрымаўся своеасаблівы спектакль, дзе ў кожнага спевака — свая роля. Іна Афанасьева, Мікалай Скорыкаў, Юлія Скараход, Вадзім Касенка, Алена Зелянкевіч, Уладзімір Кудрын — усе салісты працуюць натхнёна, з максімальнай аддачай. Моцнае ўражанне пакідаюць нумары ў выкананні вакальнай капэлы — гэта, несумненна, цудоўная творчая знаходка аркестра.

Уся праграма выконваецца і ўспрымаецца на адным дыханні, хаця яна рознастылёвая, шматжанравая па структуры: побач з народнымі мелодыямі — джазавыя эпізоды, рок, гарадскі раманс, плач...

...Прыгажосць выратуе свет. Гэтыя словы апошнім часам ужываюцца, на жаль, пераважна ў груба-прымітыўным сэнсе. Сустрэча з Максімам, якую дорыць Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга, — гэта і ёсць тая сапраўдная прыгажосць, якую меў на ўвазе Дастаеўскі; прыгажосць, здольная абуджаць самае лепшае ў кожным з нас, бо без «думак шчырых і чуцця» мы наўрад ці зможам жыць дастойна.

**Т. ПАДАЛЯК.**

# Музей паэта

Заўтра ў Траецкім прадмесці ў Мінску адкрыецца Літаратурны музей Максіма Багдановіча. Пра неабходнасць яго доўга гаварылі пісьменнікі і гісторыкі, мастакі і акцёры — усе прыхільнікі таленту вялікага паэта. Але, як часта здараецца з ушанаваннем памяці геніяў, — ад прапаноў да іх увасаблення прайшлі дзесяцігоддзі.

Музей у Мінску — не першы, дзе сабрана спадчына Максіма. Ужо ёсць Дом-музей паэта ў Гродна, сабраны руплівымі рукамі Дануты Бічэль-Загнетавай. Працуе Дом-музей у Яраслаўлі. Улетку адкрыты філіял Літаратурнага музея ў Мінску. — у доме ў Рабкораўскім завулку. Ёсць надзея, што неўзабаве можна будзе ўбачыць экспазіцыі пра Максіма таксама ў Вяззі і Ракуцёўшчыне.

**Валянцін ЖДАНКО.**

# Божа, чаму ты не любіш гэтую краіну?

**Са мной здарылася няшчасце: я атрымаў кватэру. Не, спачатку, натуральна, радаваўся. І ўсе радаваліся. Потым эйфарыя прайшла, і я задумаўся: як пераехаць? Заказаць праз «Трансагенцтва» здалося дорага — 70 капеек за кіламетр, ды і чакаць, як высветлілася, два тыдні. Такая перспектыва не вабіла, і я вырашыў шукаць транспарт на месцы, у Лагойску, адкуль, уласна кажучы, і пераязджаў у сталіцу.**

Суб'ектыў

Тут трэба сказаць — у нас таксама ёсць «Трансагенцтва», што абслугоўвае насельніцтва. Дровы там, вугаль, цэглу, — што ў цябе ёсць, — усё перавязуць. Толькі трэба прыйсці раніцай а палове восьмай і па-добраму так пагутарыць з начальнікам. Калі ёсць машына, то, можа, і дасць. Мы з жонкай прыйшлі днём і нічога прыемнага, канешне, не пачулі. «Прыходзьце ў панядзелак, — растлумачылі. — Да таго часу, пэўна, атрымаем балоны вунь для таго фургона, ну, тады і выпішам». «А што, — асцярожна пацікавіліся мы, — больш машын няма?» «А ўсе заняты, — адказалі. — Хто пошту возіць, хто малако, хто прадукты... «Цэнтравываз» вось, ніяк гэтыя машыны чапаць нельга». «А як жа мы?» — спыталі разгублена і ў адказ атрымалі цішыню і сарамлівае пацісканне плячыма...

Добра, галоўнае — кватэра, галоўнае — кватэра, даказвалі мы адзін аднаму. Яшчэ шмат усялякіх арганізацый, дзе-небудзь што-небудзь ды абломіцца.

З такой думкай я ўзяў на рабоце водпуск без утрымання і пачаў шукаць машыну, разбіраць мэблю, звязваць рэчы ў клункі — займацца справамі клапатлівымі, але ўвогуле прыемнымі.

У нядзелю пагутарыў з суседам — зваршчыкам у райаграпрамтэхніцы. «Ат, праблема, — пракаменціраваў ён. — Знойдзем мы табе машыну. Якую, «КамАЗ», «МАЗ»?» У панядзелак мы з ім падышлі да намесніка дырэктара па транспарту таварыша П. Таварыш П. паглядзеў на нас сумна і сказаў, што машын няма і не будзе. І лепш бы мы дарэмна не хадзілі. Унутры нешта абарвалася, а ў роце стала суха. Далоні спацелі. Нядобрае прадчуванне ахапіла мяне. І пайшоў я па іншых арганізацыях і прадпрыемствах старажытнага беларускага горада Лагойска.

Начальнік ПМК засмяяўся і нічога не сказаў. Індывідуальная «работа» з вадзіцелямі таксама не дала станоўчых вынікаў. Адны машыны ўжо паехалі, а другія і не збіраліся нікуды ехаць па прычыне вельмі капітальнага рамонту.

У ДАКу (дрэваапрацоўчы камбінат) параілі зайсці «заўтра або днямі». У мяне не было больш душэўных сіл хадзіць і прасіць. У вельмі дрэнным настроі прыйшоў дадому, дзе мяне чакаў невялікі сюрпрыз: сусед стрымаў слова і з вадзіцелем-такі дамовіўся. Былі перададзены 50 рублёў грошай і бутэлька «Рускай». І сталі мы чакаць.

Чакалі мы ўвесь панядзелак і большую частку аўторка. Машына так і не прыйшла. Высветлілася: таварыш П. быў, так сказаць, у курсе справы, але гэтую самую машыну асабістым загадам паслаў у іншае месца. А мы засталіся з носам. І без бутэлькі. Праўда, грошы вярнулі. Іх не вып'еш.

Што ж рабіць, у сераду зноў пачаў абыходзіць «кропкі» па парадку. Механік ДАКа абнадзеіў: «Учора «МАЗ» з рэйса вярнуўся, кузаў — во! — пяць метраў. Падыдзі да намесніка. Я, ты бачыш, нічога не вырашаю». Падыходжу да намесніка, прыемнай такой бландзінкі гадоў 40. «Што вы, што вы! Тут сваю прадукцыю няма на чым вазіць. Які «МАЗ»? А што, ён хіба вярнуўся з рэйса? Не-не, не магу, зразумейце мяне... Мы не выпісваем машын, гэта вас хтосьці падмануў... Машын няма. Бывайце здаровы».

У ПМК падказалі: чакай такога і такога. Чакаў з 3 да 6 гадзін вечара. Дарэмна. Праўда, перахапіў другога, ён прапанаваў падысці да 7 гадзін раніцы, мо што і выгарыць. Без асаблівай надзеі згадзіўся і, канешне, нічога не атрымалася; «майго» вадзіцеля паслалі «на балота». А заўтра? А заўтра— зноў на балота, а потым у Скідаль. Ну, здаецца, прыехалі. Гасі святло.

Дома вэрхал: ні паесці нармальна, ні адпачыць, ды яшчэ тэлеантэну зрэзаў па дурасці— зусім дрэнна...

Таксама ж сумленне замучыла: і на работу не хаджу, і пераехаць не магу. Божа, чаму ты так не любіш гэтую краіну і мяне асабіста?..

Машына, канешне, знайшлася, але толькі ў пятніцу. Прыйшлося ехаць за дзесятак кіламетраў ад Лагойска, дзве гадзіны чакаць на цёмным, пустым мехдвары аднаго саўгаса, але ўсё гэта дробязі. Я-такі дачакаўся. І машыну мне далі. І заплаціў я не «барыгу», а, як належыць, бухгалтэрыі. І пераехалі мы даволі паспяхова. Толькі калі я не дажыву да адмеранага прыродай тэрміну, то буду ведаць, чаму.

Бо яшчэ такая думка засмучае: калі б не суседка з яе сваяком, ды калі б я сам яго крыху не ведаў, то, напэўна, сядзеў бы на клунках дагэтуль. І таварыш П., калі б ён быў мне хоць крыху знаёмы, а яшчэ лепш, каб сваяк, ці выпівалі калі разам, — то машыну мне знайшоў бы немінуча ў той жа дзень. А так хто я такі і што я магу даць узамен? «Звязду» падарыць?

Ёсць, натуральна, такі парадак: прадпрыемства павінна абслугоўваць насельніцтва. А калі не абслужыць? То што, начальніка пасадзяць у турму? Звольняць з работы? Партбілет адбяруць? Баяцца стала нечага.

Справа, канешне, важная — перавозка народнагаспадарчых грузаў. Гэта — трэба. Гэта— у першую чаргу. Бо ў супрацьлеглым выпадку спыняцца домны, заводы і фабрыкі, не будзе расці хлеб, а ў магазін не завязуць малако і гэтак далей. Так вось падумаеш: а дзе ж тут для цябе месца, чалавеча? Калі на цябе ўвагу звернуць, на твой мурашыны піск і мітусню, яўна не дзяржаўныя? Адчуваеш сябе такім маленькім - маленькім, як зорачка на небе з туманнасці Андрамеды. Далёкая і, па вялікаму рахунку, нікому не патрэбная. Бо пакуль у гэтай краіне не перавязуць усе «жалязякі» — жыць тут нельга. І калі мы жывём, то толькі таму, што прывыклі. Мы яшчэ толькі «плануемся», а ў генах ужо закладзена: так проста тут нічога не зробіш.

Калі хочаце, гэта быў чысты эксперымент: не казаць, хто я такі і якая ў мяне ў кішэні «моцная» кніжачка ёсць. Аднойчы яна дапамагла мне ўладкавацца ў гасцініцу, дзе з дня яе адкрыцця месцаў не было, трапіць у кабінет, куды проста так не трапіш. А вось тут я яе нікому не паказаў, вырашыў стаць «чалавекам з вуліцы». Ну, вось і стаў. З пункту погляду пазнавальнасці эксперымент быў выдатны. Але жыццё — не эксперымент, вось якая штука...

Два з паловай гады назад мы пераязджалі з Мазыра ў Лагойск. Пазванілі ў «Трансагенцтва». Чакайце ў такі вось дзень, сказалі нам. У гэты дзень машына і прыйшла. Мы заплацілі 25 рублёў плюс 3 рублі вадзіцелю — надта яўна намякаў. Я стаўлю сябе на месца звычайнага, неабцяжаранага дэмакратычнымі імкненнямі чалавека і спрабую ўявіць, што ён думае на гэты конт. Так, раней была КПСС і машына прыйшла ў вызначаны тэрмін. Сёння КПСС няма — няма і машыны. Прымітыўна? Вядома, натуральна, безумоўна! Але думаць так не забароніш нікому. Так сказаць, узровень бытавой свядомасці. Праўда, калі разабрацца, то ўсё наша жыццё — суцэльны быт.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

